Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Ліпоўка 18.

Адрэс для карэспандэнцыі і падпіскі: паштовая скрынка № 19.

ПРЫЙМО ІНТЭРЭСАНТАЎ ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год – 6 зл., за паўгоду – 3 зл., за 3 мес. – 2 зл., за 1 мес. – 50 гр.

Год I. Вільня 29 чэрвеня 1931 г. № 15

## НАЙГОРШАЯ БАЛЯЧКА.

У кожным грамадзянстве, у кожны народзе, дзе толькі ёсьць падзел на ўзаемна сабе варожыя социяльныя групы ці клясы, мусяць паўставаць і палітычныя партыі: праз іх кожная социяльная група ці кляса бароніць свае інтарэсы, праз іх арганізуецца і стараецца здабыць для сябе кіраўнічае месца ў дзяржаве, здабыць уладу.

Але ня ўсе народы маюць свае ўласныя дзяржавы: іншыя з іх, як да прыкладу й мы, беларусы, сваей дзяржавы ня маюць і жывуць у чужой, дзе мусяць напружаць усе свае сілы перад усім на тое, каб не загінуць у чужой і пераважна варожай ім стыхіі, каб захаваць сваю нацыянальную душу, сваю нацыянальную культуру і забясьпечыць сабе магчымасьць вольнага эканамічна-гаспадарчага разьвіцьця. Дык тут усе партыі, якія бароняць інтарэсы паасобных сацыяльных груп данае нацыянальнасьці, мусяць мець — яшчэ балей, чымся такія-ж партыі народаў дзяржаўных, — *супольныя праграмныя пункты, супольныя нацыянальныя імкненьні і ідэалы*, якія не даюць ім зьліцца з партыямі тых-жа социяльных груп пануючае нацыі. І хоць нармальна яны ідуць паасобку, але ў рашучыя для ўсяго народу мамэнты мусяць *даваць адпор варожым усей нацыі сілам — разам*.

У такіх недзяржаўных народаў кола інтарэсаў, за якія можа ісьці партыйная барацьба, вельмі звужаецца: адпадае барацьба за дзяржаўную ўладу, бо-ж яна знаходзіцца ўсё роўна ў руках пануючае чужое нацыі. Дык астаецца толькі *канкурэнцыя за ідэйныя ўплывы на грамадзянства, за галасы народных масаў пры ўсялякага роду выбарах* у грамадзкія ўстановы, самаўрады, парляманты.

Здавалася-бы, што і ў беларусаў пад Польшчай — з увагі на ўсё сказанае — партыйная барацьба павінна выяўляцца ў вельмі слабой форме, — тым балей, што і социяльная дыфэрэнцыяцыя (падзел на клясы) не выяўляецца тут так ярка, як у другіх народаў. Фактычна клясавы падзел у нас прадстаўляецца вельмі проста: галоўную масу беларускага насяленьня пад Польшчай складаюць *сяляне — у большасьці сваей малазямельныя гаспадары*, а побач з гэтым асноўным ядром бачым даволі малачысьленую групу *чыстага пралетарыяту* і — яшчэ менш чысьленую групу *нараджаючаеся беларускае дробнае буржуазіі*. І паскольку падчас Грамады малазямельнае сялянства мела свайго ідэйнага павадыра і абаронцу сваіх інтарэсаў у пастаці гэнае масавае сялянска-работніцкае арганізацыі, дык цяпер яно аказалася зусім пазбаўленым свайго *палітычнага* цэнтру. Такім чынам выходзіць, што ў Заходняй Беларусі існуюць дзьве партыйныя арганізацыі: камуністычная партыя, якая прадстаўляе чысты пралетарыят, і — беларуская хадэцыя, прадстаўніца нараджаючаеся дробнае буржуазіі. А ў выніку гэтага і вытварыўся ў нас нязвычайна цікаўны для дасьледчыкаў социяльных адносінаў і бадай нідзе не спатыканы стан: наша партыйная крайняя лявіца і крайняя правіца, *маючы вельмі невялікую социяльную базу пад сабой*, ня могуць абмежыцца абаронай толькі інтарэсаў сваей социяльнай групы і *стараюцца захапіць уплывы на асноўную сялянскую масу*, пазбаўленую сягоньня сваей палітычнай арганізацыі. Дзеля таго-ж, што такое заданьне зьяўляецца невыпаўнімым, дык і камуністы, і хадэкі ўзыйшлі на шлях выключна дэструкцыйнае работы ў адносінах да ўсіх спробаў *самастойнага арганізаваньня асноўнае сялянскае масы* — нават тады, калі арганізаваньне гэтае адбываецца не на грунце палітычным — партыйным, а культурна-асьветным і гаспадарчым. І проці кожнае арганізацыі, якая ня йдзе ці то пад камуністычным, ці то пад хадэцкім сьцягам і орыентуецца на сялянскі масы, — дружна выступаюць і камуністы, і хадэкі, і ўрэшце — у самы апошні час — тыя кіруючыя палітычным жыцьцём Польшчы сфэры, якія лічаць для інтарэсаў Польшчы найбольш небясьпечнай іменна творчую беларускую працу ў галіне будаваньня нацыянальнае беларускае культуры і гаспадаркі. А як пры такой акцыі — ясна-ж — нельга проці ўсё больш крапчэючага сярод беларусаў культурніцкага руху бароцца на грунце ідэолёгічным, дык барацьба гэтая і прымае ў нас нязвычайна агідныя формы — заліваньня гразёй кожнага, хто — адмаўляючыся падпарадкавацца ці то камуністам, ці хадэцыі, — выяўляе нейкую творчую ініцыятыву, апіраючыся на інтарэсы беларускага сялянскага масыву.

Калі-б камуністы ці хадэкі мелі магчымасьць самі выяўляць творчую ініцыятыву ў сфэры культурнае працы, дык ясна, што яны канкуравалі-бы аб уплывы на сялянства шляхам тварэньня сваіх партыйных культурна-асьветных і гаспадарчых арганізацыяў. Але-ж на гэта сілаў у абедзьвюх гэтых групаў няма, а ў камуністаў няма і ахвоты. Дык і астаецца ім толькі адно: *ня творчая, а разбураючая праца, не будаваньне грамадзкіх арганізацыяў, а руйнаваньне ўсяго таго, чаго яны ня могуць абхапіць*, бо ня маюць даволі культурных сілаў, здольных да творчае працы.

Ясна, што пры такіх варунках і тая нячысьленая беларуская інтэлігенцыя, аб'ядналая ў апалітычных культурна-асьветных і гаспадарчых арганізацыях і ўстановах (пераважна згуртаваных у Цэнтрасаюзе), з увагі на гэткі дружны паход проці яе ажно трох варожых сілаў, ня можа так шырака й карысна працаваць для свайго народу, як павінна, — ня мае тагчымасьці выкарыстаць у поўнай меры свае творчыя здольнасьці на працу конструкцыйную. А ў меру таго, як у нашым грамадзянстве слабее творчая праца, — ворагі беларускага народу толькі яшчэ вышэй падыймаюць галаву і з радасьцяй паціраюць рукі: «пачакаем, — кажуць яны, — хутка беларусы самі сябе пажруць»...

Калі-б гэткі стан патрываў у нас яшчэ некалькі гадоў, дык запраўды ворагам нашым нічога не аставалася-б рабіць, як толькі чакаць, пакуль беларускімі рукамі ня будзе зруйнавана ўся наша нацыянальная творчая праца. Але ёсьць надзея, што гэтая нашая страшная хвароба павінна хутка скончыцца, — і *запаведзь канца яе мы ўжо бачым*. Гэта — выступленьне на арэну актыўнае грамадзкае працы новых сілаў — *нашае маладое інтэлігенцыі*, якая, прайшоўшы сярэднюю эдукацыю ў беларускіх гімназіях — пад кіраўніцтвам старых беларускіх культурнікаў, — канчае унівэрсытэты і спэцыяльныя вышэйшыя школы і — «уваходзіць у жыцьцё». Толькі-што выпушчаны Бюлетэнь АБСА (Аб'яднаньня Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў) красамоўна нам гаворыць, што моладзь, лепш за некаторых старых палітыкаў (ці лепш: палітыканаў!) разумее тую бясспрэчную і вачавідную праўду: што змаганьне між партыямі павінна быць *ня дэструкцыйнае*, ня нішчучае на — сьмерць палітычнага праціўніка, а *творчае*, — што канкурэнцыя аб уплывы на масы павінна адбывацца выключна на шляху *ўзбагачаваньня нашага народу ўсё новымі і новымі культурнымі і маральнымі цэннасьцямі*. Такая «вайна» паміж рознымі беларускімі кірункамі — *добрая вайна* і йдзе Беларускаму Народу на карысьць. Усякая іншая — шкодная і заслужвае на рашучае асуджэньне.

Няхай-жа маладыя сілы паложаць канец тэй агідзе, якая так распанашылася за апошнія гады ў нашым грамадзянстве!

## Водгук неадбытае экскурсіі.

У сувязі з тым, што вызначаная на 10 чэрвеня экскурсія Турыстычна-Краязнаўчае Сэкцыі Беларускага Навуковага Т-ва — у Латвію — не магла адбыцца з прычыны затрыманьня ў Старостве дазволу на заграцічныя пашпарты, — на рукі старшыні Т-ва грам. Антона Луцкевіча прыйшло з Латвіі гэткае пісьмо:

Вельмі паважаныя Грамадзяне,

У той час, калі мы зыйшліся выпрацоўваць дэтальны плян Вашага пабыту ў Латвіі, прыйшла сумная вестка, што Вашая экскурсія ня можа адбыцца, дзякуючы перашкодам пры атрыманьні пашпартоў.

Выказываючы наш вялікі сум з прычыны немагчымасьці вітаць Вас у Латвіі, мы пасылаем Вам лістом наша шчырае прывітаньне.

З пашанай

*В. Пігулеўскі.*
*П. Жэрдзі.*
*С. Сіцька.*
*А. Родзька.*
*Гр. Плыгаўка.*
*Якуб Кастылюк.*

Далучаемся дзьвінчукі:

*С. Сахараў.*
*А. Якубецкі.*
*Відаўскі.*
*І. Фёдараў.*
*Ціхаміраў.*

Рыга, 8 чэрвеня
1931 году.

# Узнауленьне саюзнага трактату паміж СССР і Нямеччынай.

30 чэрвеня канчаецца тэрмін саюзнага трактату паміж СССР і Нямеччынай, падпісанага 5 гадоў таму ў Бэрліне — якраз у часе найцясьнейшага збліжэньня Нямеччыны да Англіі і Францыі — пасьля так званага «Лёкарно» і напярэдадні прыняцьця Нямеччыны ў склад Лігі Нацыяў.

Бэрлінскі трактат зьявіўся прадаўжэньнем так званага Рапальскага трактату, падпісанага таксама ў часе слаўнай Гэнуэскай канфэрэнцыі, якую наладзіў Льлёйд-Джордж, жадаючы «гутарыць з бальшавікамі агульна-эўрапэйскім фронтам»...

Нямеччына яўна — плянова і станоўча — балянсуе паміж заходнімі дзяржавамі і Радавай Расеяй, выкарыстоўваючы гэтую «раўнавагу» вельмі спрытна дзеля сваіх палітычных мэтаў.

Талентны тварэц гэтай «лёкарнска-рапальскай» палітыкі, нябошчык Штрэзэман, так азначаў яе сутнасьць і мэты — у сваей прамове ў Рэйхстагу 1-га траўня 1925 г.:

„Заданьне нямецкай палітыкі будзе заўсёды палягаць на тым, каб знайсьці раўнавагу інтарэсаў у бок Захаду і ў бок Усходу. Пры гэтым гэты «балянс» — паміма ўсей яго труднасьці — ніколі ня можа прыняць такой формы, якая-б зрабіла немагчымым, а нават цяжкім — некарысны для Нямеччыны ўклад стасункаў з Расеяй“...

Такім чынам — стасункам з Расеяй нямецкая палітыка прыдае першую вагу, ставіць іх на першае месца, трымаючыся ў гэтым традыцыйных загадаў Бісмарка...

У сваім імкненьні да поўнага вызваленьня з-пад жалезнага бота пераможцаў Нямеччына разглядае СССР, як *найлепшы козыр* у тэй палітычнай ігры, якая мае мэтай гэтае вызваленьне.

З свайго боку — для бальшавікоў саюзная Нямеччына — найпэўнейшая гарантыя проці ўсялякай новай спробы ваеннай інтэрвэнцыі, ці гаспадарчага байкоту з боку дзяржаў Захаду. Таму яны так моцна трымаюцца адзін аднаго.

Акурат як у часе Рапальлё і Лёкарно, і цяпер Нямеччына круціцца ў вельмі цяжкой сытуацыі, шукае ратунку, але, як хіба-ж наймагутнейшы палітычна-гаспадарчы арганізм у Эўропе, — усьцяж вядзе спрытную пляновую палітычную акцыю, выкарыстоўваючы ўсе тыя магчымасьці і выгады, якія дае ей сярэдняе палажэньне між двума сьмяротна варожымі сьветамі — буржуазным Захадам і камуністычным Усходам.

——

Таму й цяпер — якраз, як і раней, — перад тэрмінам нямецка-радавага трактату, — у эўрапэйскай палітыцы наглядаецца нячуванае ажыўленьне.

Кіраўнікі нямецкай палітыкі едуць у Англію, што выклікае страшэнную трывогу ў Маскве, якая зараз-жа адказывае на гэта ўзнаўленьнем палітычных перагавораў з Францыяй, прапануючы Францыі — трактат аб узаемным ненападаньні, дый зусім ня цікавячыся адказнай прапазыцыяй з боку Францыі — узнавіць перагаворы і гаспадарчыя...

Ясна, што прапазыцыя гэта мае мэтай націск на Нямеччыну — пагрозу... Вестка аб гэтых радава-францускіх перагаворах выклікала няменшую трывогу ў Бэрліне, як вестка аб падарожы нямецкіх міністраў у Лёндан. — Справа ў тым, што — усялякі палітычны трактат СССР з Францыяй павінен будзе зьмяшчаць прырачэньне з боку СССР прызнаньня і пашаны граніцаў Польшчы, што, зразумела, біла-б Нямеччыну ў ваўсіх яе плянах — перагляду гэтых граніцаў. А такім актам з боку СССР у значнай меры траціўся-б для немцаў сэнс і зьмест Бэрлінскага трактату, які паміж іншым мае мэту — падтрымліваць у плынным стане граніцы Польшчы...

Нямеччына якраз асабліва баялася таго, каб побач з гарантыйным трактатам француска-расейскім француская дыплёматыя ня здолела правесьці так-ж трактат польска-расейскі, ужо выразна гарантуючы польскія граніцы... Францыя цяпер мае вялізарную сілу — паміма сваей найсільнейшай у Эўропе арміі — яшчэ і тым, што — блізу адзіная ў Эўропе мае ня толькі добрыя фінансы, але і вялізарны запас золата, на недахоп якога хварэе хіба-ж найгорш якраз Радавая Расея. Дык Нямеччына і баіцца, што — Францыя можа проста купіць у бальшавікоў — за значную пазыку — тую гарантыю польскіх граніцаў, якая «дарэзала-б адразу ўсе нямецкія надзеі», як піша нямецкая прэса...

А француская прэса піша, што Брыян якраз так і ставіць задачу сваіх перагавораў з Масквой...

Трывога Нямеччыны ясна паказывае на тое, што ў сваім трактаце з немцамі бальшавікі ў значнай меры захавалі сабе «свабоду руху» — каб страшыць Нямеччыну на выпадак яе «залішняй перавагі на Захад».

——

І вось, цяпер, калі ў гэтых днях Бэрлінскі трактат ізноў — у выніку ўзаемнага страшаньня і шантажу — ізноў прадоўжаны, дый нават — на неазначаны час (толькі з правам адмовы — з папярэджаньнем за год), ёсьць падставы думаць, што Масква дала новыя гарантыі Нямеччыне ў тым, што ніякага трактату, які-б гарантаваў Польшчы яе сучасныя граніцы радавы ўрад не падпіша»...

Так прынамся цьвердзіць супакоеная ўзнаўленьнем трактату нямецкая прэса... Ці выйдзе што потым з распачаўшыхся нанова француска-радавых палітычных перагавораў, вельмі сумліўна: трэба думаць, што Францыя ня згодзіцца выключыць з радава-францускага трактаку аб узаемнай гарантыі мірнага сужыцьця «польскі пункт», ці — прызнаньне і пашану граніц Польшчы.

# ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

## Польшча.

### Новы віленскі ваявода.

23 чэрвеня Прэзыдэнт Рэспублікі падпісаў назначэньне п. Зыгмунта Бэчковіча на становішча віленскага ваяводы.

Як ведама, п. Бэчковіч дагэтуль быў ваяводай Наваградзкім.

### Ашчаднасьцёвая акцыя ураду.

У імкненьні да бюджэтнай раўнавагі ўрад прадаўжае жорсткае, але неабходнае абмежваньне выдаткаў на пэнсіі ўрадоўцам. Два месяцы прайшло толькі ад часу зьмяншэньня на 15 прац. пэнсіяў, а цяпер ад 1 ліпня ўзноў значна маюць быць зьніжаны розныя дадатковыя паборы ўрадоўцаў — у сталіцы ды на „крэсах“. Некаторыя групы ўрадоўцаў у выніку ўсіх зьніжак маюць атрымліваць толькі палову цяперашняй пэнсіі. Гэтыя меры выклікалі страшэннае хваляваньне сярод урадоўцаў, якіх прафэсыянальныя саюзы радзяцца над мерамі пратэсту. Асабліва вострыя настроі, як сьцьвярджае прэса, пануюць сярод чыгуншчыкаў, якія быццам рыхтуюцца да забастоўкі (?).

Бязумоўна неабходная акцыя зьмяншэньня выдаткаў на пэнсіі мае аднак-жа ў Польшчы, як у ваўсіх бюракратычных дзяржавах, і свае небясьпекі. Ня кажам ужо аб пратэстах, забастоўках і інш. А зьмяншэньне пэнсіяў фатальна адаб'ецца і на прамысловасьці ды гандлі ў краі. У адной Варшаве ёсьць звыш 40 тысячаў урадоўцаў. Лёгка зразумець, як адразу падрэжыцца гандаль у сталіцы. А гэта адаб'ецца ўзноў на паступленьні падаткаў з гандлю ды прамысловасьці... Такім чынам поўнай карысьці такая ашчаднасьць скарбу ня дасьць.

### Польска-украінскія перагаворы у Львове.

Газэты паведамілі, што ў Львове пачаліся «прадуступныя перагаворы» між мясцовымі лідэрамі Б. Б. — з б. львоўскім ваяводай Баркоўскім на чале, — з аднаго боку, і — правадырамі Украінскага Нацыянал-Дэмакратычнага Аб'яднаньня («УНДО»), з другога боку.

Як ведама, перад апошняй сэсіяй Рады Лігі Нацыяў таксама вяліся перагаворы між Б. Б. і ўкраінцамі, але памысных рэзультатаў тады не далі. Польская старана тады трэбавала, каб украінскія правадыры ўзялі назад свае скаргі з Лігі Нацыяў, дый заявілі — ад імя ўсяго ўкраінскага насяленьня — аб яго поўнай і шчырай ляяльнасьці адносна да Польскай дзяржавы.

З розных меркаваньняў украінцы адмовіліся споўніць абодва гэтыя варункі. Тым часам Рада Лігі, ці вярней «камітэт трох», які разглядае ўсе скаргі, рашаючы, якія з іх можна пусьціць на дэцызію Рады, адлажыў даклад справы да верасьнявай сэсіі. Адлажыў таму, што польская дэлегацыя заявіла, што — прадбачыць магчымасьць дайсьці да поўнага паразуменьня з украінскай меншасьцю — шляхам беспасярэдніх перагавораў. Гэтай сваей заявай польскі ўрад узяў на сябе значную долю адказнасьці за пасьпех новых перагавораў — дык мае быць больш уступлівым, як раней. Такім чынам — палажэньне ўкраінскай стараны ў новых перагаворах будзе значна выгаднейшым, як у папярэдніх.

Наагул, здаецца, абедзьве стараны пераканаліся ў тым, сколькі шкодаў і стратаў нясе за сабой узаемная вострая барацьба, — дык можа ўжо больш цьвяроза прызнаюць узаемна адна адной роўныя правы ды зразумеюць усе карысьці мірнага сужыцьця ў краі.

# Аб „нацыянальнай памяці“ народу.

(*Брачыслаў Скарыніч. — „На што і як зьбіраць географічныя і асабовыя назовы беларускія“.* Выдаў Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні. Вільня — 1931).

Карысная, патрэбная, горача (аж надта нават—бо-ж першае выданьне было сканфіскавана) напісаная кніжачка павінна пайсьці па ўсім абшары Заходняе Беларусі, дайсьці да кожнага яе інтэлігента. Агульная яе думка павінна глыбака і крэпка ўвайсьці ў сьведамасьць збудзіўшагася беларускага народу. Аб гэтым якраз і кажа з гарачым уздымам напісаная прадмова выдаўца — Б. Студ. Саюзу — „Да беларускае інтэлігенцыі“, заклікаючая гэтую „сьвятлейшую часьць народу“ ня толькі „станоўка і ўпорна ўзяцца за працу“, але і — „захапіць гэтай працай увесь народ, асьвяціць і арганізаваць яго“.

Сярод „усялякай, разнастаронняй — культурнай, гаспадарчай, палітычнай—працы“, неабходнай для запраўднага адраджэньня народу, першае месца займае праца над самаўсьведамленьнем народу, як нацыянальна-гістарычнай асобы, над выяўленьнем, вызваленьнем, украпленьнем і разьвіцьцём сваей, створанай прыродай і гісторыяй, нацыянальнай індывідуальнасьці. Бо-ж — толькі ў гэтым сваім нацыянальным стане можа вольна і шырака разьвіцца, глыбака ўкараніцца дый высака ўзьнясьціся — як кожная паасобная чалавечая адзінка народу, так роўна і ўся вялікая асоба народу — гаспадара. Народу трэба ведаць сябе! А найлепшую веду сябе, зразуменьне дый усьведамленьне сваей істоты ў сучаснасьці дае гісторыя — веда сваей мінуўшчыны.

І якраз тутака найслабейшы бок нашай нацыянальнай сьведамасьц: наш народ жыве і цяпер яшчэ блізу цалком „па—за гісторыяй“— быццам тая жывёла — „на лоне прыроды“ з году ў год паўтараючы сваю „адвечную песьню“, цяжкой працы ў нейкім „зачараваным коле вечных паўтарэньняў“ — без ніякага поступу наперад, без ніякага „зьбіраньня капіталу“ — духоўнага і матэрыяльнага, без чаго і ня можа быць наагул ніякага поступу, ніякага духоўнага жыцьця, ніякай гісторыі, ну, і, зразумела-ж — і ніякай будучыні для народу! Народ, які жыве толькі, як жывёла, і здабудзе для сябе толькі лёс жывёлы, на якой езьдзіць ды працаваць, якую даіць, стрыгчы ды есьці будуць заўсёды іншыя народы, пакуль не заезьдзяць ды не зьядуць яго цалком і дарэшты... Дый ці-ж ня бачым мы якраз гэтага сумнага вобразу нашай долі — як на Ўсходзе, так сама і на Захадзе.

Так было, так ёсьць дый так будзе, пакуль народ наш будзе жывёлай і ня станецца асобай. Найвышэйшая роля і заданьне нашай маладой інтэлігенцыі — у тым, каб ператварыць наш народ з жывёлы ў асобу.

——

Нацыянальна-чалавечая асоба народу ведае, любіць, зьбірае і захоўвае сваю мінуўшчыну, плятучы з яе жывую гісторыю, жывую тканіну свайго несьмяротнага жыцьця. Праца сягодняшняга дня — гэта-ж і ёсьць ператварэньне жывой мінуўшчыны ў жывую будучыню народу.

Калі сам Беларус не зьбярэ дый не захавае для сябе гэтую забытую ды расьцярушаную па ўсім яго Краі-Бацькаўшчыне яго мінуўшчыну, дык нехта іншы зробіць гэта для сябе, падмяніўшы беларускую мінуўшчыну нашага краю нейкай іншай — чужой... Дый ці-ж ня робіцца гэта на нашых вачох тутака ў белы дзень?! — Дык можа пара ўжо і нам забраць голас у гэтай нашай справе, распачаць плянова, адкрыта і горача гэтую сьвятую для нас, неабходную для нашага нацыянальнага разьвіцьця працу — зьбіраньня нашай мінуўшчыны, дый ператвараньня яе ў жывую нашую будучыню?! Бо-ж тое, што для чужынцаў тутака прадстаўляе нейкую „цікаўнасьць“, як мёртвыя „забыткі“, для музэяў, для археолёгічных калекцыяў, архіваў, для нас, беларусаў, гэта — абрыўкі нашага жыцьця, кавалкі нас саміх, нашага нацыянальнага цела, нашай душы, ды усё гэта зусім ня мёртвае, але жывое, толькі неяк „заснуўшае“, — пакуль сьпіць, забыўшы сваю мінуўшчыну, наша душа! Але зараз жа ўсё гэта ажыве, як толькі збудзімся са-сну мы самі!.. Дый тады мы пазнаем усю вялізарную вартасьць, усю родную кроўную блізкасьць для нас гэтых усіх абрыўкаў, „забыткаў“, кавалкаў даўнейшага жыцьця, якое калісьці буйна, вольна, шырака жыло. Дый, усё гэта кажам мы, мае цудоўную сілу ізноў ажыць, як толькі ажывем мы самі, ускрэшаныя нашай любоўю да нашай вялікай нацыянальнай асобы—

## Дэманстрацыі безработных,

У апошнія дні зноў узнялася хваля забурэньняў і дэманстрацыяў безработных. У Мікалаеве таўпа безработных у 400 чалавек, сабраўшыся ля староства, патрэбавала ад старосты — «хлеба ды працы». Дэманстранты былі рассеяны паліцыяй, а некалькі з іх арыштаваны.

У Рыбніку ў дэманстрацыі прынялі ўчасьце звыш 3.000 чалавек, дамагаючыся выдачы дапамогі.

У Хваловічах безработныя прабавалі зьняць з працы працаўнікоў фабрыкаў і заводаў.

## Забастоука дворнікау у Варшаве.

Варшаве пагражае забастоўка дворнікаў. Канфлікт выбухнуў на груньце праекту новага калектыўнага дагавору, апрацаванага саюзамі дворнікаў і дамаўласьнікаў. У гэтым праекце спрэчку выклікаў пункт аб тым тэрміне, за які дамаўласьнік мае папяраджаць дворніка аб звальненьні са службы. Дамаўласьнікі дамагаюцца двух-тыднёвага тэрміну, дворнікі трэбуюць гадавога.

Міністар працы стварыў спэцыяльную камісію, якая мае апрацаваць нейкі кампраміс, каб не дапусьціць да забастоўкі.

---

# Заграніцай.

## Вялікая радые-прамова нямецкага прэм'ера.

У зьвязку з прапазыцыяй Хувэра дый — каб прыхіліць Францыю да згоды, нямецкі канцлер Брюнінг сказаў праз радыё вялікую палітычную прамову. Горача падзякаваўшы Амэрыцы за дапамогу ў такі крытычны мамэнт, Брюнінг заявіў, што — „чым лягчэй будзе нямецкаму народу вытрымаць цяжкі крызіс, тым мацнейшай апорай будзе ён для міру і ладу ў Эўропе". „Усе разумеюць, што падставай гэтага міру зьяўляюцца добрыя стасункі між Нямеччынай і Францыяй. Дык нямецкі ўрад, веручы ў добрую волю Францыі, з свайго боку зробіць усе высілкі, каб перамагчы ўсе труднасьці на шляху да поўнага паразуменьня з Францыяй. Як толькі будзе канчальна выканана прапазыцыя Хувэра.

Нямецкі ўрад распачне нанова на шырокім фроньце супрацоўніцтва з Францыяй — на шляху адбудовы Эўропы і ўкрапленьня міру.

Нямецкая прэса тлумачыць «неспадзяваную» прамову Брюнінга, як — «новы зварот у курсе нямецкай палітыкі». Нямецкі ўрад быццам гатовы нават — зрачыся распачатага ўжо мытнага аб'яднаньня з Аўстрыяй, якое, як ведама, якраз і папсавала добрыя стасункі паміж Францыяй і Нямеччынай, падважыўшы сьмяротна аўтарытэт Брыяна і яго палітыкі ў краі. Дык прамова Брюнінга разглядаецца паміж іншым, як ратаваньне Брыяна і яго палітыкі паразуменьня з Нямеччынай — на груньце францускага парляманту.

## Амэрыканскі «ультыматум» Францыі.

Пакуль францускі ўрад нараджаўся аб варунках, на якіх Францыя можа прыняць прапазыцыю Хувэра, ён зрабіў новую заяву, якая прадстаўляе запраўдны ультыматум Францыі. Новы амэрыканскі камунікат кажа, што прапазыцыя Хувэра павінна быць — або цалком прынята — бяз ніякіх зьменаў ці варункаў, або цалком адкінена Францыяй. Калі-ж Францыя спрабуе ставіць розныя засьцярогі, тады Амэрыка і Англія патрэбуюць, каб Францыя сама плаціла свае даўгі ім без перарыву, а калі Францыя зажадае сама перарыву, тады Амэрыка і Англія зачыняць наагул усялякі крэдыт Францыі...

Гэты нячувана рэзкі камунікат выклікаў у францускіх палітычных колах вялізарнае хваляваньне. У парляманьце пасыпаліся інтэрпэляцыі. Дайшло да вельмі вострых сутычак паміж лідэрамі правіцы і Брыянам.

Прэса ўспамінае, што такім тонам Амэрыка гутарыла з Францыяй толькі ў 1923 — 1924 г. г., калі Францыя, зруйнаваўшы сваю валюту, дамагалася ўсьцяж ад Амэрыкі скасаваньня ўсіх ваенных пазыкаў Францыі. «Цяпер Францыя — ня тая, і францускі ўрад павінен паказаць, што з ім ня можна гутарыць такім тонам, загадываць яму, не даючы нават часу на развагу». Трэба паказаць, што з Францыяй і з яе самастойнай палітыкай павінны лічыцца нават Амэрыка і Англія — ці гэта падабаецца ім, ці не»... Так пішуць францускія газэты. Аднак — побач з тым— дадаюць, што Францыя змушана будзе, зразумела, прыняць прапазыцыю Хувэра цалком... Брыян патрэбуе толькі, каб было ўсё зроблена так, як прадбачана ў «пляне Юнга», каб — за ўсялякую цану — захаваць «нятыкальнасьць» (!?) гэтага пляну...

Як бачым, нямецкая акцыя ў Амэрыцы і Англіі была добра падрыхтавана, і лагодная прамова Брюнінга спрытна замазвае зьнячуляючай масьцяй балючую ад моцнага ўдару амбіцыю Францыі.

Згодна выступіўшыя на ратаваньне Нямеччыны Амэрыка і Англія лішні раз паказалі, што француская дыктатура ў Эўропе мае выразныя рубяжы ды межы... Француская каса наляцела на амэрыканскі камень. Тая «бомба», якой з жахам спадзявалася француская прэса пасьля нямецкай візіты ў Чэкэрс (да англійскага ўраду) якраз і выбухла ў гэтым англа-саксонскім камунікаце.

## Сэнсацыйная рэвэляцыя аб румынскай «здрадзе» Францыі...

Адна з вялікіх францускіх газэтаў апублікавала сэнсацыйныя рэвэляцыі аб тым, што Румынія распачала з Нямеччынай — ня толькі ў галіне гаспадарчай, але і палітычнай, перагаворы, якія ідуць так далёка, што ахапілі нават справу — перагляду існуючых трактатаў!.. Характэрна, што румынскае пасольства ў Парыжу не запярэчыла гэтых вестак. Парыжскі карэспандэнт «Кур. Варш.», падаючы гэтыя весткі, заклікае Францыю — «цясьней зьблізіцца да рэшты сваіх прыяцеляў у Ўсходнай Эўропе — пасьля гэткай здрады з боку Румыніі».

# Амэрыка дае „палегку" ці „перадышку" Нямеччыне.

Фінансава-гаспадарчае палажэньне Нямеччыны пагоршылася да таго, што паўстала пагроза яе валюце. Намер Нямеччыны патрэбаваць перагляду пляну адшкадаваньняў павёў за сабой далейшы спадак нямецкіх біржавых вартасьцяў. Чужаземныя ды краёвыя капіталы пачалі бегчы з краю. На папярэджаньне запраўднай панікі на біржы Нямецкі Банк кінуў сотні міліёнаў марак. У апошнія дні сума страчаных на гэта Банкам Рэспублікі дайшла да мільярду марак! Усё гэта ўжо ня толькі пагражала сплаце чарговай раты адшкадаваньняў, але рыхтавала, як сказана — крах нямецкай валюты ды дзяржаўнае банкруцтва рэспублікі.

Францыя дый дзяржавы „францускай групы" усьцяж разглядалі гэтую пагрозу, як штучна выкліканую нямецкім урадам — у мэтах новага зьменшаньня адшкадаваньняў. Але Англія і Амэрыка глянулі на справу шмат паважней. У часе візіты ў Англіі нямецкія міністры дакладна высьветлілі небясьпеку англійскаму ўраду. Але з Амэрыкі ўжо ехалі ў Эўропу кіраўнікі замежнай і фінансавай палітыкі Злучаных Штатаў, каб на месцы высьветліць справу і ў час прыняць меры...

У выніку ўсяго гэтага нямецкі пасол у Вашынгтоне ўжо 19 чэрвеня паведаміў нямецкі ўрад, што прэзыдэнт Хувэр згадзіўся на год адлажыць чарговыя раты ваенных пазыкаў Эўрапэйскім дзяржавам — пад варункам, што тыя — з свайго боку — адложаць на год спагон з Нямеччыны чарговай раты адшкадаваньняў. Гэтая заява, ці прапазыцыя Хувэра выклікала вялізарную сэнсацыю ў Эўропе. Нямецкі ўрад, ведама-ж, зараз-жа адказаў у Вашынгтон, што згаджаецца на такую адсрочку, ці так званы «мараторыум». Англія і Італія — таксама згадзіліся, бо яны блізу што нічога ня трацяць на гэтым: іх доля адшкадаваньняў — блізка роўная з тым, што яны плацяць Амэрыцы ў пагашэньне ваенных пазык. Астаноўка толькі за Францыяй, якая бярэ з Нямеччыны значна больш, чым сама плаціць Амэрыцы на рахунак пазык, дык страціла-б у бюджэце гэтага году каля 500 міліёнаў марак.

Францускі ўрад цяпер і радзіцца, пад якімі варункамі згодзіцца на прапазыцыю Хувэра, адкінуць якую, зразумела-ж, ня знойдзе ў сябе сьмеласьці — перад абліччам пагражаючых усей Эўропы неаблічаных вынікаў, калі-б запраўды ў Нямеччыне дайшло да банкруцтва...

—

Ратуючы Нямеччыну, Амэрыка ўзапраўднасьці першым чынам ратуе такой прапазыцыяй сама сябе, — свае грошы за Нямеччынай.

Насамперш, чарговую рату сплаты пазыкаў Амэрыка зусім *не даруе* эўрапэйскім сваім даўжнікам, як і тыя не даруюць нічога Нямеччыне: у наступным годзе і ім і ей трэба будзе ўнясьці — замест аднэй — дзьве раты.

Амэрыка ў першую чаргу ратуе тымчасова нямецкую валюту, крах якой пагражаў-бы Амэрыцы значна большымі стратамі, як чарговыя раты па пазыках і адшкадаваньнях... Трэба ведаць, што Амэрыка дала Нямеччыне за апошнія 5 — 6 гадоў звыш чатырох міліярдаў даляраў.

Дык гэны «мараторыум», які, зразумела, не датычыць сплатаў «прыватных усялякіх пазыкаў» Нямеччыны Амэрыцы, якраз і мае мэтай ратаваць насамперш гэтыя сплаты, аблягчаючы іх тым, — што іншыя адкладае на пасьля — на год...

Такім чынам Амэрыканская «вялікадушнасьць» мае цалком практычныя — камэрцыйныя падставы.

---

жывой, адзінай і непадзельнай — у яе мінуўшчыне, сучаснасьці дый бязьмежнай будучыне!

—

Скарыніч вучыць, як зьбіраць ды захоўваць беларускія географічныя і асабовыя назовы дый тлумачыць, дзеля чаго гэта патрэбна.

Трэба, каб наш край, кажа ён, „захаваў свой собскі выгляд".

Трэба, каб хаця-ж толькі самі беларусы захавалі дый заўсёды ўжывалі свае ўласныя, спрад вякоў існаваўшыя назовы местаў, вёсак, рэкаў, асабовыя імёны і г. д. п.

Бо ж на нашых вачох усе гэтыя беларускія старадаўнія назовы зьмяняюцца цяпер на польскія, як даўней, праўда, зусім яшчэ нядаўна — зьмяняліся на расейскія.

Кніжка Скарыніча была сканфіскавана за хіба-ж залішне гарачае яго абурэньне на тое, што гэткая крыўда запраўднаму беларускаму абліччу краю рабілася дый робіцца ўсьцяж з такім „лёгкім сэрцам"... Рэзкі заклік яго да сумленьня — як тых, хто робіць гэта, так і тых, што прыглядаюцца да гэтага бязьдзейна, і выклікаў кару.. Але ж тым, што караюць беларусаў за гэтае шляхотнае абурэньне трэба прыпомніць, як горача — дый таксама шляхотна — абураюцца яны самі на тое, што робяць з адвечнымі польскімі назовамі немцы на сваіх „усходніх крэсах".

Беларуская прэса заўсёды паказывала на той дэмаралізуючы момант у польскай агульна нацыянальнай ідэолёгіі, калі тое, што лічыцца добрым, патрэбным, маральна і нацыянальна асьвячоным на ўсходніх крэсах, кляйміцца, як агіднае, маральна і нацыянальна недапусьцімае на крэсах заходніх.. Калі палякі абураюцца тым, што немцы перакручываюць адвечна польскія народныя назовы на нямецкія, дык трэба разумець тякое-ж абурэньне на такое-ж перакручываньне беларускіх назоваў на польскія.

Але-ж Скарыніч мае галоўнай мэтай не абурэньне на „апалячываньне беларускіх назоваў" з боку польскага ўраду і польскага грамадзянства. Яго галоўнае заданьне — зьвярнуцца да саміх беларусаў, каб яны самі захоўвалі дый ужывалі заўсёды, бароначы ад загубы, ратуючы ад пагражаючай магілы, свае беларускія назовы, гэтыя жывыя слоўныя прыборы ды адзнакі, дадзеныя жывой беларускай прыродзе, культуры і мінуўшчыне краю адвечным яго жыхаром.

Трэба памятаць, што ўсе гэтыя назовы, якім часта — па некалькі сталецьцяў, а то і тысячалецьцяў веку, складаюць важную частку беларускай мовы і гісторыі! Гісторыя культуры, слушна кажа Скарыніч, шмат карыстаецца з географічных і асабовых назоваў. Так сама прыродаведаньне. З гэтых назоваў можна даведацца, дзе і якія расьліны расьлі або і растуць цяпер. Геаграфічныя назовы памагаюць пазнаваць даўнейшае рассяленьне беларускіх плямёнаў, пашырэньне іх ды перасяленьне... І так далей.

Высьветліўшы значэньне ды важнасьць гэтай працы для агульна-нацыянальнага самаўзгадаваньня, аўтар дае практычныя рады, спосабы ды ўзоры, як яе выконываць і дзеля мэтаў навукова-дасьледчых. Бо-ж гэтай працай мае заняцца, здаецца, плянова і паважна, як гэта робіцца ўжо некалькі гадоў на Беларускім Усходзе, нашае заходня беларускае студэнства.

Можам толькі пажадаць нашым маладым дасьледчыкам сілы і вытрываласьці ў важнай працы, а ўсей беларускай інтэлігенцыі, да якой зьвярнуўся Студэнскі Саюз, поўнага зразуменьня важнасьці паднятай Скарынічам і намі тутака дый сьведамага і гарачага супрацоўніцтва ў супольным дзеле ўзгадаваньня нашай нацыянальнай асобы, украпленьня яе „гістарычнай памяці", без якой, паўтараем народ ёсьць толькі жывёла, але ня ёсьць асоба.

—

Нядаўна памёршы маршалак Фош, які быў ня толькі геніяльным ваенным павадыром францускага народу, але і зыркім дасьледчыкам агульных мэтадаў самазахаваньня і самаабароны народу ад ворагаў і спосабаў забясьпечаньня вечнага існаваньня народу, сказаў, што— *„толькі той народ, які мае добрую памяць, здолее захаваць сябе ад загубы"*... Фош баяўся, што францускі народ залішне ўжо хутка забудзе аб мінулай вайне, аб небясьпецы з боку Нямеччыны.

Але і наагул, — як у прыродзе, таксама і ў „грамадзкай прыродзе", у гісторыі, — мець ворагаў — ня толькі ня страшна, але, як вучаць і біолёгія і гісторыя, нават патрэбна, нават неабходна! Трэба толькі добра і ў кожную хвіліну памятаць аб іх існаваньні дый — аб усіх найдрабнейшых фактах, спосабах, штуках бязупыннай з імі барацьбы. Трэба памятаць, як добра трэбуе Фош, — аб усей тэй „ваеннай гісторыі" народу, з якой запраўды-ж складаецца хіба галоўны зьмест усей яго нацыянальнай гісторыі і ідэолёгіі,

*Суліма*.

